ПЕРСОНА

# Диск с балетом Елизарьева стоит около 100 долларов

*Спектакль “Лебединое озеро”, который знаменитый белорусский хореограф поставил в Японии, уже не идет на сцене одного из лучших театров Токио “Бунка Канкан”. Это в Беларуси премьерные спектакли не снимают с репертуара и год, и два, и пять. А в Японии — все по-другому. Три премьеры — и до свидания.*



## Балет на видео

— В Японии спектакль делается на три показа, — *рассказал “Народной Воле” Валентин Елизарьев.* — Поэтому зал примерно на три тысячи человек все три дня был забит публикой. При этом билет стоит не так уж и дешево. Например, на 20-й ряд — 120 долларов.

В “Лебедином озере” было три состава артистов, участвовали звезды национального японского балета, а также солисты Мариинского и Михайловского театров. Поэтому сразу снималось три фильма. Когда я уезжал из Токио, уже были готовы диски с записью этого балета. Теперь они продаются по всему миру. Стоят дорого — примерно под 100 долларов за диск.

## Наследие классиков

— Есть несколько версий этого балета, — *рассказывает Елизарьев*. — Впервые “Лебединое озеро” было поставлено в Москве и закончилось провалом. В 1901-м появилась редакция балетмейстера, заслуженного артиста Императорских театров Александра Горского, которую он неоднократно кардинально переделывал. К 1937 году этот спектакль вобрал в себя все лучшее, что было в русском балете. В Японии я ставил именно классический спектакль, может быть, чуть приспособленный к нашему времени, оставив там неприкосновенными куски хореографии, которые являются большой ценностью мировой культуры. Япония — как губка, она впитывает в себя все лучшее, что есть в мировой культуре.

Кстати, до недавнего времени и в Минске мы имели подлинник хореографии 1901 года, где были собраны лучшие куски работ российских хореографов. Думаю, мы много потеряли, отказавшись от такого классического наследия...

Моими ассистентами в Токио были бывшие солисты белорусского балета Александр Бубер и его жена Мики Ватанабе. Я запустил спектакль, а они репетировали его до моего следующего приезда. Помогли мне ребята и с японским языком, которого я не знаю...

## О заработках

— Спрашиваете, довольны ли заработками артисты японского балета? — *уточняет Елизарьев*. — В принципе, они получают очень хорошо. Особенно те, которые добились международного признания. А на всех международных конкурсах море японцев! Меня поражает в японцах умение трудиться, жажда творчества и нацеленность с детства на конечный результат. Даже артистки со средними возможностями работают так, что показывают высокие результаты. У нас же много расхлябанности...

## О планах на ближайшее будущее

— В июне я приглашен в жюри Московского международного конкурса, который проходит в Большом театре, — *говорит хореограф.* — В июле еду в Пекин — тоже на конкурс, август собираюсь провести с семьей и внуками, а там посмотрим. Планы на новые постановки тоже есть, но расскажу о них позже...

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## *Белорусских балерин хотели «нагрузить» эскорт-услугами*

Скандальное заявление несколько недель назад сделала экс-прима Большого театра **Анастасия Волочкова**. В эфире телеканала НТВ она рассказала об эскорт-услугах, которые театр предоставляет *“всем желающим, если у тех есть на это деньги”.*

*“Девочек просто по списочку приглашает администратор и объясняет каждой, что ты идешь на вот эту тусовку, на банкет, с продолжением — с постелью, со всеми делами. С определенными олигархами, с членами попечительского совета и так далее... Такие вечеринки не в простых клубах устраивались — бывало, что и Версаль для этого снимали!”* — рассказала балерина о закулисной жизни Большого.

Если балерины пытаются отказаться, то у них, по словам Анастасии, *“возникают проблемы”.*

Предлагали ли когда-нибудь подобную “дополнительную нагрузку” белорусским балеринам?

*— Со мной пытались проделать этот номер (обойдемся без конкретных имен), но я в самом начале категорически обрубил такие дела,* — рассказал “Народной Воле” Валентин Елизарьев. — *Это было довольно давно — лет 15 назад... И в Беларуси, во всяком случае при мне, ничего подобного не было. Но попытки наладить такое, скажем так, развлечение были...*

**Марина КОКТЫШ.**

ЗАКУЛІССЕ

# *«Паўлінка» і іншыя афіцыйныя асобы*

### *Каго запросяць на адкрыццё Купалаўскага тэатра?*



Першыя гледачы на першы пасля рэканструкцыі спектакль прыйдуць у Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы 29 сакавіка. Без квіткоў. Уваход толькі па запрашальных, спісы абраных складае Мінкульт пад пільнай увагай Адміністрацыі прэзідэнта, паведаміла “Народнай Волі” крыніца ў тэатры.

Спектакль “Паўлінка” — а менавіта абноўленай пастаноўкай гэтай п’есы, як і абяцаў галоўны рэжысёр **Мікалай Пінігін**, адкрыецца новае стагоддзе тэатра — наведае Аляксандр Лукашэнка.

Хто будзе запрошаны на “Паўлінку” разам з прэзідэнтам?

Усё ж такі Купалаўскі тэатр — не “Дажынкі” і не спартыўны матч, і кіраўніку краіны сядзець сярод губернатараў, хакеістаў і нуварышаў на эталонным беларускім спектаклі, здаецца, не з рукі. Напрыклад, калі ў Маскве пасля рэканструкцыі адкрываўся Вялікі тэатр, на гала-канцэрце ў царскай ложы побач з прэзідэнтам **Дзмітрыем Мядзведзевым** была яго жонка, Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл і вялікая спявачка **Галіна Вішнеўская**. А ў зале сярод вядомых артыстаў і не менш вядомых банкіраў прысутнічаў нават **Міхаіл Гарбачоў**, хоць ён, як вядома, не прыхільнік расійскага палітычнага тандэма.

Вядома, у Мінску ніжэй труба і радзей дым. **Станіслава Шушкевіча** на прэм’еру ў Купалаўскі не запросяць. Магчыма, у тэатры, нягледзячы на Вялікі пост, будзе **Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт**. Але месцы жонкі і народнай артысткі ўсяе Беларусі ў ложку побач з прэзідэнтам застаюцца пад пытаннем. Першая лэдзі краіны амаль не пакідае свой дом у Шклове, а вялікая і ўсенародна любімая **Стэфанія Станюта** даўно спачыла, і яе месца ў беларускім тэатры заняць пакуль нікому не ўдалося, хоць званне “народны артыст” ёсць у многіх.

Вядома, што ролю Паўлінкі рэпеціруюць у новай пастаноўцы дзве маладыя актрысы — **Марта Голубева і Кацярына Алейнікава**. Хто менавіта будзе іграць 29 сакавіка, галоўны рэжысёр **Мікалай Пінігін** вырашыць напярэдадні прэм’еры.

Як высветліла “Народная Воля”, запрашальныя білеты на першую прэм’еру атрымалі ўсе кіраўнікі сталічных тэатраў і музеяў. І іншыя афіцыйныя асобы.

**Алена МАЛОЧКА.**



ПА-ЗА СЦЭНАЙ

## *Максім СОХАР, галоўны рэжысёр Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя В.Дуніна-Марцінкевіча (г.Бабруйск), магістр мастацтвазнаўства*

# Пякотка

Ну што — “возрадуйтесь”, акадэмікі, дактары ўсялякіх навук, прафесары, кандыдаты ў дактары і ўсе астатнія, хто дакучліва называе сябе “тэатральнымі крытыкамі”. Тыя разбуральныя зерні, якія вы так заўзята сеялі ў апошнім дзесяцігоддзі, далі шчодрыя ўсходы і нават буйна квітнеюць — драматычны тэатр Беларусі вашай руплівай працай і “мудрымі” парадамі загнаны ў глыбокую прорву. Зараз, бегаючы ад “круглых”, “квадратных” да пасляабедзенных міністэрскіх сталоў, перадаяце адзін аднаму дураслівыя краснабайствы накшталт: “настаў час ікс”, “змянілася тэатральная прастора”, “трэба зачыніць архіўную краму тэатральных прыёмаў”, “тэатр знаходзіцца паміж Сцылай і Харыбдай” і г.д. Ды зараз і без вашых высноў усе ў краіне ведаюць, у якім месцы знаходзіцца драматычны тэатр...

Форум “Нацыянальная тэатральная прэмія” яскрава гэта паказаў. І не “магутная групоўка” крытыкаў, а практыкі сцэны (акцёры, рэжысёры, мастакі-сцэнографы), як хірургічным скальпелем, ускрылі праблемную скулу на целе тэатральнага мастацтва. А што ж было? З 28 дзяржаўных тэатраў у высокім конкурсе ўдзельнічалі 16. Адзначым, што шэсць з іх (Тэатр оперы і балета, музычны тэатр, тэатры імя Я.Купалы, імя Я.Коласа і імя М.Горкага, Брэсцкі аблдрамтэатр) з’яўляюцца акадэмічнымі. А вось пераможцам стаў сціплы Гродзенскі абласны тэатр лялек. Прычым з дзевяці намінацый гродзенцы забралі палову, а рэжысёр спектакля-пераможцы “Пікавая дама” Алег Жугжда прызнаны лепшым рэжысёрам. Самым жа галоўным і бясспрэчным з’яўляецца тое, што перамагла справядлівасць. Таму што суддзямі была не “магутная групоўка” крытыкаў, а 120 прафесійных майстроў ад усіх дзяржаўных тэатраў Беларусі.

Вынік — перамагла лялька! Сёння ў тэатральным асяроддзі жывуць чуткі, што словы, выказаныя А.Жугждам: “Мне шкада ўзроўню драматычнага тэатра...” — вымусілі жахнуцца рэдактараў, стваральнікаў і крытычную абслугу глянцавага часопіса “Мастацтва”. Як жа, кажуць, яны ўжо “намыліліся” намінаваць прадукт сваёй працы на Дзяржаўную прэмію. Нездарма ж так радасна гучыць заклік стоначальнікаў “круглых сталоў”, каб гэты часопіс стаў “настольнай кнігай у Міністэрстве культуры і сярод тэатральных дзеячаў, у якім “лепшыя з лепшых” крытыкі абменьваліся думкамі, як прафесійны тэатр падняць да... самадзейнага? Жарт, але ён пра многае гаворыць.

Мітусіцца карпарацыя “аднадушных аднадумцаў”. Бегаюць і разносяць сваё незадавальненне вынікамі рашэнняў журы. *“...Навошта было патрэбна такое вялікае журы прадстаўнікоў рэгіёнаў?* — разважаюць крытыкі ў кулуарах і на тралейбусных прыпынках. — *Што, мы самі не змаглі б усіх абмеркаваць і ацаніць? Вось тады лялька не перамагла б!..”* Вось як! Бачыце, да чаго дайшлі!

Аксціцеся, залатыя вы нашы *“абмеркаванцы па выкліку”!* Ніхто вашу *“настольную кнігу”* зачытваць да дзірак не будзе. Ваш узровень і стыль вядомы ў абодвух міністэрствах (культуры і інфармацыі) і асабліва дзеячам тэатральнага мастацтва. У свой час з вашай дапамогай унікальныя нацыянальныя акцёрска-рэжысёрскія тэатры ператварыліся ў дырэктарскія. Замест таго каб клапаціцца аб цікавых спектаклях для гледача, вы настойліва прапагандавалі фестывальны рух, падштурхоўвалі рэжысёраў да пастаноўкі спектакляў *“фестывальнага фармату”.* Вы імкнуліся, каб у кожным раёне быў свой “міжнародны фестываль”. І яны ўзнікалі, як маслякі пасля дажджу: “Белая вежа” (г.Брэст), “Міжнародны лялечны фестываль” (г.Мінск), “Март-Кантакт” (г.Магілёў), “Маладзечанская сакавіца”, “Славянскія тэатральныя сустрэчы” (г.Гомель), “Пінскія зоры”, “ТЭАРТ (Панарама)” (г.Мінск), “Нацыянальная драматургія” (г.Бабруйск), “Нацыянальная тэатральная прэмія” (г.Мінск).

“Навошта столькі тэатральных фестываляў ды яшчэ міжнародных?” — запытаецца наіўны чытач. Дык гэта ж сфера дзейнасці тых крытыкаў, іх карпаратыўная зацікаўленасць. Каб усім было стабільнае “хлебнае месца” і каб не наступаць адзін аднаму на ўсялякія мазалі, яны размеркаваліся і “добрасумленна” з высокіх міністэрскіх трыбун “агорваюць” сваіх кармільцаў. Асноўнай ключавой фігурай гэтых “міжнароднікаў” з’яўляецца, канешне, дырэктар, у большасці выпадкаў ён і мастацкі кіраўнік тэатра і свайго фестывалю. Крытыкаў не бянтэжыць, што гэты “мастацкі кіраўнік” — былы адстаўны ваяка, ці то выпускніца Горацкай сельгасакадэміі, ці то настаўнік гісторыі, адным словам, чалавек, які не мае спецыяльнай адукацыі, але фарміруе і адбірае на высокі форум творчыя калектывы. Хіба ж гэта нармальна? Крытыкаў гэта не цікавіць, гэта, маўляў, не праблема — *“быў бы чалавек харошы і шчодры”!* Тое, што гэтыя *“шчодрыя за дзяржаўны кошт”* выціскаюць з тэатральных калектываў галоўных і чарговых штатных рэжысёраў, крытыкі чамусьці не заўважаюць, а іншы раз і заўзята дапамагаюць, як гэта было са мной. Каб не быць галаслоўным, спынюся не гэтым факце больш падрабязна.

...Я рыхтаваў спектакль “Недоросль”. Як вядома тэатралам, п’еса складаная і занадта архаічная. Але пры ўсім тым ёсць у ёй “залатыя зярняткі”, якія мяне і зацікавілі. Да таго ж далёкая руская класіка — амаль што антыкварыят. Каб твор зажыў сучаснасцю, трэба было “ўдыхнуць у яго жывы агонь” — гэта я зрабіў. Паказалі два разы бабруйскім гледачам. Рэакцыя неадназначная. З’явіліся водгукі ў мясцовай прэсе і інтэрнэце. Яны былі розныя: станоўчыя, адмоўныя, памяркоўныя. Нармальны працэс... Я прааналізаваў водгукі гледачоў, пажаданні журналістаў і разам з мастаком, кампазітарам і акцёрамі ўключыўся ў творчую работу, каб дапрацаваць спектакль і паказаць яго прафесійным тэатразнаўцам. А на тую бяду ў мяне ўзнік вытворчы канфлікт з дырэкцыяй тэатра і абласным упраўленнем культуры. Ну, як узнік, так і знік бы той канфлікт — ці мала іх у жыцці, тым больш у тэатральнай справе. Аднак упраўленцы разам з дырэктарам тэатра В.А.Вінель вырашылі зрабіць мне сюрпрыз.

9 лістапада раніцай званок. “У 16.00 прыедуць мінскія крытыкі глядзець “Недоросля”. Я адказваю: “Недоросль” стаіць у афішы на 30 лістапада, нам патрэбны не крытыкі, іх хапае і ў Бабруйску, а аналітыкі, тэатразнаўцы, а яны ўсе ўдзельнічаюць у мерапрыемствах па прысуджэнні Нацыянальнай прэміі. Пры гэтым два ўдзельнікі спектакля хворыя, выканаўца адной з галоўных роляў нават ляжыць у бальніцы”. У адказ пагрозы і строгі вердыкт дырэктара тэатра Веранікі Вінель: “Крытыкі ўжо едуць, хворых акцёраў на сцэну! Спектакль павінен быць паказаны!” Вось дык упраўленцы! Яны нават не разумеюць, што тэатральны спектакль — гэта не кінафільм, які можна дастаць з бляшанкі, залажыць у кінапраектар — і “пайшло мастацтва”. Гэта жывы, маментальны працэс, які павінен адбывацца з жывымі і здаровымі людзьмі, акцёрамі. Ды каму мне пра гэта гаварыць? Дырэктар кінулася ў бальніцу, знайшла галоўнага ўрача, накалолі хворага артыста і сказалі: “Устань і ідзі!.. Іграць спектакль...” А той не можа ісці — апухлі ногі, абвастрылася падагра, высокі ціск. Зноў пагрозы. І што? Пайшоў бедачына-небарака.

Я, каб не падвяргаць трупу рэпрэсіям, папрасіў акцёраў іграць, і яны мяне паслухалі. Гэта было цяжкае, зняважлівае выпрабаванне: наспех сабраныя дэкарацыі, адсутнасць балета, хворыя артысты пры пустой глядзельнай зале, перад прыжмуранымі поглядамі прадузятых чыноўнікаў, адміністрацыі тэатра і, не пабаюся сказаць, ангажаванымі крытыкамі. За што такая зняважа? Толькі за тое, што не “прагнуўся”, адстойваў сваю творчую пазіцыю...

А хто ж суддзі? Калегі мае — рэжысёры сталічныя і перыферыйныя, можаце мне пазайздросціць!

*(Заканчэнне на 8-й стар.)*

СТИЛЬ

# Мода для народа

*Все хотят одеваться красиво. И считают, что разбираются в моде. Жаль только, что желание одеваться красиво, модно и стильно на сегодняшний день у большинства белорусов трансформируется в желание одеваться дешево, практично и надолго. Надолго — это до полного износа того же костюма, тех же туфель...*

*Из чего же состоит мода... для народа?*

***Первое.*** Место продажи. В Минске аренда торговой площади стоит от 25 до 40 евро/м2 (от 300 до 450 тыс. бел. руб.). То есть аренда даже маленького торгового места размером 15 м2 будет стоить не дешевле 4 млн белорусских рублей в месяц в спальном районе и около 7 млн в центре города.

***Второе.*** Зарплата продавца составляет оклад и процент от продаж. Но стремиться нужно хотя бы к 500 долларам в месяц, и самому предпринимателю — организатору “мини-мельницы” — тоже, разумеется, хотелось бы зарабатывать не меньше.

***Третье.*** Зарплата бухгалтера. Даже в случае самого дешевого варианта — аутсортинг, и небольшой объем работ — меньше 1 млн белорусских рублей в месяц вряд ли выйдет.

***Четвертое.*** Еще затраты на то, что невозможно предусмотреть, — факторов риска в нашей экономике и стране более чем. В любом торговом центре предпринимателей ждут разнообразные сюрпризы. Арендную ставку очень трудно зафиксировать на год без изменений не в лучшую сторону. Похожий товар у конкурентов может оказаться плюсом только для покупателя, но такая ситуация не интересна для продавца, так как наш нееленивый покупатель в состоянии сравнить цены, даже если торговые точки находятся на разных этажах.

Один из интересных моментов, на котором нужно заострить внимание, — товарные остатки. В переводе на простой и доступный нашему пониманию язык — товарные остатки по истечении определенного срока (для Европы — от 6 месяцев до 1 года, для Беларуси, думаю, практически бесконечность) — это замороженные и обесценивающиеся деньги.

Итак, до следующего этапа насобиралось уже как минимум 13—17 млн затрат в месяц плюс те затраты, которые невозможно просчитать. Поэтому просто ответьте себе на вопрос: сколько вещей нужно продать на такой меленькой площади в месяц, чтобы хотя бы просто окупить свои затраты?

***Пятое.*** Выбор ассортимента. Казалось бы, этап самый творческий и интересный...

*История первая* (*на мой взгляд, более оптимистичная для потребителя, но уже во многих случаях не выдерживающая реалий белорусского рынка*): работа по франшизе. Все просто: открываем сайт по предложениям о продаже франшиз в категории “Одежда, обувь и аксессуары” и... О, чудо, как все просто! За 15—250—350 тысяч долларов прекрасные специалисты из США, Турции, Китая и даже России продают практически готовый бизнес, а точнее — идею бизнеса (к сожалению, во многих случаях это напоминает “продажу воздуха”). Это хороший момент для потребителя — шанс приобрести действительно оригинальную вещь, а не подделку. Как правило, те, кто работает по франшизе, не скрывают, какие вещи из новой, а какие — из прошлогодней коллекции, дорожат именем и имиджем, и этим сказано многое. Цены — соответствующие.

*История вторая (более реалистичная)*: работа с китайской, турецкой, “а-ля рынок Хмельницкий” продукцией неясного производства. Основные принципы работы — дешево, ярко, иногда даже модно, и ненадолго. Кофточка — на 1 месяц, и вперед за новой!

*История третья (совсем правдивая*): Невероятно большой процент продаваемой одежды в Беларуси — это сток в том или ином виде. В Европе проходит продажа текущей коллекции, потом сезонная распродажа и... практически все товарные остатки забирают сток-склады, счет идет на тысячи единиц, себестоимость единицы разная — от 2—10 до 50—100 евро за единицу, но там больше вероятность соответствия цены не только бренду, но и качеству. Бывает так, что изначально для удешевления единицы производитель просчитывает перепроизводство продукции на определенное число тысяч или десятков тысяч единиц. Как только продукция поступает на сток-склад, она готова к поставке основным потребителям в Россию, Казахстан, Украину, Беларусь, Литву, Латвию, Южную Америку и т.д. Как правило, прибавляем еще надбавку импортера, и уж потом к ней добавляем 50—500% розничной надбавки.



Большинство одежды из третьей истории продается у нас, начиная с бутиков и заканчивая магазинчиками в малых городах и селах, получается, модная одежда из Европы приходит к нам через год с момента ее производства. Что тоже не совсем верно, потому что и на Западе также существуют стоковые магазины, невостребованные вещи из которых опять-таки ввозятся и продаются на территории России, Украины, Беларуси и т.д. Равно ли здесь слово “невостребованный” слову “неактуальный”?

Итак, наконец-то одежда в Беларуси. Много ли в нашей стране людей, которые отслеживают моду и новые брендовые коллекции? Бутики и фирменные магазины часто спокойно торгуют стоком, выдавая его за новую коллекцию и многие люди носят сток и при этом могут даже и не догадываться об этом.

Нееленивый читатель прибавит и отнимет все цифры, подумает о прибыли и убытке и задаст себе парочку вопросов: кому и за что он зачастую достаточно дорого платит, когда покупает одежду, если действительно модной и актуальной ее практически нет в стране?

Почему одежда белорусского производителя, которая часто не соответствует запросам покупателей и годами реализуется в торговых центрах, стоит дороже, чем сток-одежда, которая прошла долгий путь и огромное количество посредников?

Придет ли когда-нибудь понятие *“быстрая мода”* на белорусский рынок? Стратегию быстрой моды можно выразить простой формулой: предлагать одежду на пике моды по доступной цене. За счет быстрой смены ассортимента (15—20 раз в год) экономия на складских помещениях и т.д.

На Западе понимают, что хранить одежду на складе дорого. А понимает ли это белорусский производитель?

Как понять, в каком году была модной вещь, только что приобретенная в дорогом торговом центре?

Может ли среднестатистический белорус с абсолютно среднестатистической зарплатой, которая у многих далека от планки в 500 долларов в месяц, быть модным?

За что и кому мы платим, приобретая “модную” одежду?..

**Татьяна БЕРЕЗОВСКАЯ.**

**Об авторе**

*Родилась в Минске. Закончила БГПУ им.М.Танка. Работала стилистом.*

ЗАПРАШЭННЕ

# *Мілен Фармер вязе ў Мінск 30 грузавікоў абсталявання*

*27 кастрычніка ў Мінску ўпершыню выступіць Мілен Фармер. Андрэй Агапаў з “Рускай акадэміі забаў”, якая арганізуе канцэрты спявачкі ў Расіі і Беларусі, распавёў падрабязнасці будучага шоу.*

Шоу Мілен Фармер абяцае стаць самым маштабным у Беларусі за апошні час. Спявачка прывязе ў Мінск 30 грузавікоў абсталявання і больш за 150 чалавек тэхнічнага персаналу.

— *Мілен Фармер заўсёды бярэ самыя апошнія дасягненні ў тэхніцы і ўсё гэта ўвасабляе на сцэне*, — распавядае Агапаў, які працуе са спявачкай ужо больш за 10 гадоў. — *Шоу, якое цяпер рыхтуецца, будзе цалкам адрозніваецца ад таго, што было некалькі гадоў таму*.

Кошт квіткоў на канцэрт складае ад 660 тысяч да 2,5 мільёна беларускіх рублёў. Самыя дарагія будуць прадавацца ў найбольш блізкую да сцэны зону, дзе будзе ўсяго 500 месцаў. Дарэчы, менавіта такія квіткі зараз прадаюцца найбольш актыўна.

**Аліна ВЕТРАВА.**



ПА-ЗА СЦЭНАЙ

# Пякотка

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.)

На незавершаную творчую працу маладога рэжысёра па выкліку прыехалі чатыры персоны, лепшыя прадстаўнікі "крытычнай эліты" на чале з доктарам філалогіі Т.Д.Арловай і галоўным рэдактарам глянцавага часопіса "Мастацтва" Л.А.Грамыка. Што ж іх пагнала, ды так тэрмінова, у далёкую дарогу? Любоў да тэатра, да акцёраў, рэжысёраў? Ці, можа, рэжысёр Сохар зрабіў нейкі цуд, мастацкае адкрыццё? Не, даражэнькія чытачы, ніякага цуда я не стварыў, а на астатнія пытанні можаце самі даць адказы-здагадкі. Скажу толькі, што кампазітар, музыкант Аляксандр Касінскі ў гэты дзень павінен быў атрымаць ганарар па афіцыйным дагаворы за арыгінальную музыку да спектакля "Недоросль". Зайшоў да дырэктара за подпісам. Тая ўзняла лямант, што грошай няма, "я — маці-адзіночка, гатова заплаціць вам сваімі, таму што запрашаць крытыкаў са сталіцы справа не танная..." А колькі бензіну спалілі, паслаўшы за імі службовы аўтамабіль? Прывезлі, уладкавалі, пачаставалі, заплацілі і адвезлі дамоў...

Вы запытаеце: а што ж яны зрабілі? А нічога асаблівага яны не зрабілі... Вылузваліся адзін перад адным у дэмагагічных разважаннях. Яны папракалі мяне за тое, што я праігнараваў іх "абмеркаванне". І, лічу, правільна зрабіў. Навошта мне марнаваць час, слухаючы пераказы фанвізінскага сюжэта? Я гэты сюжэт на памяць ведаю, не адзін месяц ў ім купаўся.

Крытыка дапамагае рэжысёру, артыстам, калі яна ідзе ад ведання жыцця, ад ведання таго прадмета, пра які ідзе размова. А калі гэта чыстая тэорыя... Я хачу звярнуцца да той жа Таццяны Дзмітрыеўны і сказаць: "Вы часцей прыязджайце да нас. Мы будзем з вамі ездзіць у халодным аўтобусе па родных вёсачках, школах, дзіцячых садках, абмяркоўваць праблемы тэатра". Такое ж запрашэнне адрасую і вам, Людміла Аляксееўна, і вам, Крысціна Рычардаўна. Мяркую, падчас такіх вандровак вы праверыце свае высновы наконт таго, што трэба памяняць галоўнага рэжысёра. Галубачкі, дзе б мы іх, рэжысёраў, набралі, калі б па кожнай вашай прапанове мянялі?..

Між тым нямала прыкладаў шчырых, добрасумленных адносін тэатральных крытыкаў з дзеячамі тэатра — рэжысёрамі, акцёрамі, сцэнографамі. Артыкулы колішніх тэатразнаўцаў У.І.Няфёда, А.В.Сабалеўскага, Г.І.Барышава, А.К.Саннікава, С.А.Пятровіча, М.А.Каладзінскага, Ю.А.Пашкіна і зараз працуючых — Р.Б.Смольскага, В.М.Ждановіч, В.М.Ярмалінскай, Т.Я.Гаробчанкі, Р.І.Баравіка, В.А.Салеева радуюць сваім прафесіяналізмам і, галоўнае, павагай і любоўю да майстроў сцэны, глыбокай зацікаўленасцю лёсам маладых рэжысёраў. Прозвішча Арловай сярод іх няма. Яе крытыка зубадрабільная, а не аналітычная. Каму яна патрэбна? Упраўленцам, фестывальным менеджарам дзеля расправы з непажаданымі?

Дарэчы, пасля першай маёй пастаноўкі на бабруйскай сцэне мне патэлефанаваў адзін з крытыкаў і адкрытым тэкстам сказаў: "Калі хочаш мець добрую рэцэнзію і становае абмеркаванне спектакля — падрыхтуй адзін мільён рублёў (тады гэта было эквівалентна 300 у.а.), нумар у гатэлі і вячэру". Я адмовіўся. На магілёўскім фестывалі "Март-Кантакт" мой спектакль размалацілі ўшчэнт. Мяркую, каментарыі тут не патрэбны. Канешне, гэта бяда, калі адсутнічае тэатразнаўчы аналіз, але ж і вялікае ліха, калі пойдзе "крытычная навала". Я яе перажыў, аднак пякотка засталася...

Але вернемся да асноўнай праблемы нашых разважанняў. Хто сёння ў тэатрах, дзе скасаваны пасады галоўных рэжысёраў, стварае рэпертуарную, мастацкую палітыку і, у рэшце рэшт, клапоціцца аб іміджы дзяржаўнага тэатра? Той жа мастацкі кіраўнік-дырэктар з рэжысёрамі-гастралёрамі з далёкіх ускраін Украіны, Малдовы, Расіі, Літвы і г.д. Прычым рэжысёры-"налётчыкі" імкнуцца прыязджаць са сваёй брыгадай — мастак, кампазітар, балетмайстар. За некалькі рэпетыцый хуценька прыстрояць сваю, некалькі разоў правераную, "форму" да нашай "гліны" — і чарговы фестывальны "шэдэўр" гатовы. А што ў асадку? Вялікія ганарары, шчодрыя "адкаты", фестывальная траскатня, феерверкі, круглыя і не круглыя сталы з "глыбокімі" і абстрактнымі разважаннямі. А чаму не? Утульна, сытна, грошы даюць — можна паразважаць, пафіласофстваваць, памарыць... Неяк літаратурны рэдактар з Тэатра імя Я.Коласа С.Дашкевіч трапна заўважыла: "Ведаць бы вытокі, адкуль ідуць тыя грашовыя патокі..." Ды не з уласных жа кішэняў фестывальных дырэктараў-менеджараў. Вядома, што з дзяржаўнага бюджэту і спонсараў па прымусе — ім тых грошай не шкада, хопіць усім і на ўсё... А запытайцеся вы ў арганізатараў гэтых "міжнародных фестываляў", чаму на іх форумах не ўдзельнічаюць спектаклі тэатраў з Мазыра, Пінска, Слоніма ці з таго ж Бабруйска? У іх даўно гатовы адказ — "не ўпісваюцца ў міжнародны фармат". Што ж там за такі ўнікальны "фармат"? Адзін-два спектаклі з Днепрадзяржынска (раённы гарадок ва Украіне), Смаленска ці Херсона і два-тры крытыкі нашай гадоўлі, якія зараз жывуць у Варшаве, Гановеры альбо ў С.-Пецярбургу. Вось і ўвесь статус... і "фармат".

А як жа мастацтва? Якая карысць і каму ад гэтых пампезных "феерверкаў", фінансавых выдаткаў? Гледачам? Акцёрам? Рэжысёрам? Вось гэта і хвалюе сапраўдных дзеячаў тэатра, вучоных-тэатразнаўцаў, якіх з вялікай неахвотай запрашаюць на гэтыя "міжнародныя" форумы. Навошта яны там, ёсць жа свае, правераныя крытыкі. Аднойчы я запытаў у вядомага прафесара, вучонага-аналітыка: "Як вы, шаноўны, аказаліся ў гэтай заказной кампаніі?" "Дык, — адказаў ён, апусціўшы вочы, — беднасць апанавала... Малыя дзеці... А тут добра плацяць..." А запытайце вы ў арганізатараў, чаму на іх фестывальных паказах адсутнічаюць акадэмічныя тэатры з Мінска? Маўчаць, бо няма што сказаць. А вось Мікалай Пінігін адказвае, што не хоча марнаваць час у гэтай "абласной прафанацыі". Галоўны рэжысёр Мазырскага драмтэатра Раман Цыркін гаворыць, што асноўная праблема — гэта няўвага да перыферыйных тэатраў наогул. *"Раней,* — адзначае мой калега, — *на кожную прэм'еру прыязджалі крытыкі, рабілі аналіз убачанага, а цяпер нават пры вылучэнні спектакляў на Нацыянальную тэатральную прэмію мы нікога так і не дачакаліся..."* Не змаглі дачакацца крытыкаў і рэжысёры з Палескага драматычнага тэатра (г.Пінск) і Слонімскага драмтэатра.

А вось да нас у Бабруйск прыехала "эксперт", былая актрыса нашага тэатра Ала Палухіна. Яе візіт рассмяшыў трупу. З насупленым выглядам паглядзела спектакль "Страцім-Лебедзь" і, не сказаўшы акцёрам ніводнага слова, моўчкі адбыла. Я ўжо каля цягніка цікаўлюся: "Якое ўражанне?" У адказ: "Якое, якое... мне нельга гаварыць" — і паехала. А ў Мінску, у часопісе Людмілы Грамыкі, згадзіла Багдановіча, назваўшы наш тэатр "Задрышчынск 1950-х гадоў мінулага стагоддзя". Вось дык крытык-эксперт, вось дык тэатральная культура!.. А яна ж яшчэ выкладчыца ў Акадэміі мастацтваў — зноў нонсенс. Так што, дарагія калегі з Гродна, Мазыра, Слоніма, Пінска ці з Гомеля, няхай беражэ вас Бог ад такіх экспертаў-крытыкаў, настаўнікаў і іх наездаў...

На маю думку, пара скасаваць і гэтыя абласныя, з пампезнай назвай "міжнародны", фестывалі. Яны даўно зжылі сябе, а зараз з'яўляюцца рассаднікам разбэшчанасці. Даваць канверты з грашыма пэўным крытыкам, членам "міжнароднага" журы, усялякім запрошаным рэжысёрам па святлу, колеры, феерыі, феерверкам і т.п. — гэта ўжо не толькі не арыгінальна, а нават і крымінальна. Вось зараз ідзе актыўная падрыхтоўка да чарговага "міжнародніка" "Март-Кантакт" у Магілёве, там будуць вялікія грошы (дзяржаўныя і спонсарскія), якіх хапіла б для васьмі тэатраў на год бязбеднага жыцця...

Лічу, што для нашай краіны дзевяць міжнародных тэатральных фестываляў — занадта! Іх павінна быць максімальна тры: "Беларуская тэатральная вясна" (накшталт Эдынбургскага) — паўнацэнны міжнародны тэатральны фестываль з усімі відамі (драматычны тэатр, опера, балет, музкамедыя, лялькі) — адзін раз у два гады, г.Мінск; "Беларускі тэатральны фестываль нацыянальнай драматургіі" — адзін раз у два гады, г.Бабруйск; "Нацыянальная прэмія" — адзін раз у два гады, г.Мінск.

Безумоўна, тэатральную справу трэба тэрмінова рэанімаваць і канструктыўна перабудоўваць. Асаблівай увагі патрабуе драматычны тэатр рэгіёнаў, ён зусім заняпаў пад ціскам дырэктараў-дзялкоў. Але не трэба нам старых догм і прапаноў з "настольнай кнігі" карпаратыўных крытыкаў, якія ўжо люляюць ідэю заснаваць гарадскія і абласныя прэміі, а потым пераможцаў намінаваць на нацыянальную. У тым "адборачным казане", на думку гэтых экспертаў і мудрагелістых крытыкаў, "зварыцца" аб'ектыўны пераможца. Мяркую, што гэта чарговая прыдумка былых "знаўцаў". А вось Міністэрству культуры разам з тэатральнымі дзеячамі і акадэмічнымі навукоўцамі варта распрацаваць праект перабудовы тэатральнай справы, абмеркаваўшы яго з прафесіяналамі — практыкамі сцэнічнага мастацтва (рэжысёрамі, акцёрамі, мастакамі-сцэнографамі). На маю думку, дзяржаўную праблему павінны вырашаць галоўным чынам дзяржаўныя органы, прафесійныя ўстановы, творцы-прафесіяналы, а не групка аматараў і камбінатараў...

У час форуму "Нацыянальная тэатральная прэмія" першы намеснік міністра культуры У.М.Карачэўскі ўсхвалявана гаварыў, што ў тэатрах сталіцы і ў рэгіёнах не хапае рэжысёраў. *"На жаль,* — адзначаў Карачэўскі, — *новыя рэжысёрскія імёны з'яўляюцца не так часта, як таго хацелася б. Ёсць цікавая моладзь, яе трэба берагчы, падтрымліваць, дапамагаць вучыцца. У часы СССР дзейнічала сістэма стажыровак, і малады чалавек мог паехаць у Маскву, Ленінград, Кіеў, Ташкент... Мы намагаемся наладзіць сістэму рэжысёрскіх стажыровак (пакуль што — у Расіі і краінах блізкага замежжа)... Таленавітых рэжысёраў станем адсочваць літаральна са студэнцкай лавы. Зараз разглядаецца пытанне аб стварэнні Цэнтра эксперыментальнай рэжысуры. Спадзяюся, дзякуючы яму, мы зможам запаліць новыя рэжысёрскія зоркі"* ("Мастацтва", №10, кастрычнік 2012 г., с.3).

Цудоўныя перспектыўныя разважанні шчырага і паважанага працаўніка (кажу гэта без іроніі). Але чамусьці згадваюцца вядомыя словы паэта: "Жаль только — жить в эту пору прекрасную уж не придется — ни мне, ни тебе". Хочацца прасіць Бога, каб дапамог новаму міністру Б.Святлову, яго калегам У.Карачэўскаму, Т.Стружэцкаму і іншым камандуючым нашага культурнага фронту здзейсніць задуманае. Але, дарагія айцы культуры, для пачатку трэба зберагчы ў Беларусі тых маладых рэжысёраў, якія ўжо ёсць, — выгадаваныя, вывучаныя і... бяспраўныя. Кінутыя на самавыжыванне. Чаму? Таму, што ўкаранілася разбуральная крытыка, калі некаторыя дырэктары, усклаўшы на сябе функцыі мастацкіх кіраўнікоў, з зайздроснай паслядоўнасцю, праўдамі і крыўдамі, пры маўклівай згодзе (бывае, што і не маўклівай) начальнікаў упраўленняў культуры абласцей выціскаюць з тэатраў непаслухмяных рэжысёраў. Яны нават падумаць не здольны, што сапраўдны рэжысёр паслухмяным быць не можа. Ды і не павінен быць! Ад такіх "продвинутых" дырэктараў-кіраўнікоў можна пачуць: "А навошта мне рэжысёр? Я магу запрасіць любога пастаноўшчыка — мітусні менш, а карысці больш..." І запрашаюць, і даюць высокія ганарары. Дык каму больш карысці? Мастацтву? Гледачам? Дзяржаве? Не, ім карысці ніякай, а вось такому дырэктару — яе хопіць з гакам...

І ўсё ж, нягледзячы ні на якія інсінуацыі, наезды, прыезды, прыніжэнні, знявагі, бясконцыя аплявухі, сцвярджаў і буду сцвярджаць: творчым гаспадаром у доме-тэатры павінен быць рэжысёр! Галоўны рэжысёр павінен выбудоўваць мастацкую палітыку і адказваць за яе. Ні эканаміст-дырэктар-менеджар, ні ўсіх узроўняў упраўленцы, ні міністры, ні іх намеснікі не здольны стварыць тэатр. Ствараюць мастацтва тэатра і самі тэатры рэжысёры з акцёрамі. Аб гэтым красамоўна сведчыць тэатральная гісторыя, асабліва савецкага тэатра, у тым ліку расійскага і беларускага. К.Станіслаўскі, У.Неміровіч-Данчанка, Ус.Меерхольд, А.Таіраў, М.Акімаў, Г.Таўстаногаў, А.Яфрэмаў, Э.Мільцініс, Ю.Любімаў, Р.Вікцюк, Э.Някрошус, К.Ірд, а ў Беларусі — Ф.Ждановіч, Е.Міровіч, К.Саннікаў, Ул.Галубок, В.Баркоўскі, Р.Таліпаў, М.Трухан, Р.Баравік, М.Пінігін — вось далёка не поўны пералік рэжысёраў-стваральнікаў тэатраў-студый, тэатраў-лабараторый, тэатраў-дамоў, тэатраў-храмаў...

Бяру на сябе смеласць сцвярджаць — без рэжысёра тэатр змярцвее. Ён жыве, развіваецца, квітнее, дзякуючы натхнёнай працы, ініцыятыве і творчаму таленту рэжысёра. І гэта разумеюць усе... Тады чаму мы так зняважліва, не па-гаспадарску ставімся да людзей гэтай прафесіі, асабліва маладых? Атрымліваецца нейкая двурушная "накладка". Калі ты ціха сядзіш, як мыш пад венікам (чытай — за кулісамі), табе ветліва гавораць: "Чаго ты там сядзіш? Устань і ідзі ў святло! Не бойся — ідзі! Дарогу маладым!" Як толькі ты выйшаў і пайшоў, а яшчэ і нешта сказаў, адразу вокліч: "Ты што робіш? Хто ты такі? Занадта дзёрзкі! Такі нам не патрэбны!.." Хіба ж гэта нармальна?!

Можа, я згусціў фарбы? Памыляюся? Хацелася б пачуць маіх маладых калег з глыбінкі. А было б карысна падыскутаваць і са сталічнымі майстрамі рэжысёрскага цэха. Я вельмі хацеў бы ведаць думку Мікалая Пінігіна аб маіх поглядах на сённяшні стан тэатральнага мастацтва. А можа, адгукнецца нехта і з маіх рэжысёраў-настаўнікаў — Б.Луцэнка, А.Гарцуеў, Р.Баравік? Мяркую, што было б цікава і карысна.

МОЗАИКА

## Последний рывок

Вчера начался заключительный этап подготовки хоккейной сборной Беларуси к чемпионату мира-2013.

В подготовительный период сборная примет участие в матчах "Европейского хоккейного вызова" против команд Германии (5—6 апреля в Минске и Солигорске), Словакии (12—13 апреля в Бобруйске и Жлобине), Латвии (19—20 апреля в Риге) и международном турнире "Кубок Словакии" (25—26 апреля в Братиславе).

1 мая команда вылетит в Швецию. 77-й чемпионат мира пройдет с 3 по 19 мая в Стокгольме и Хельсинки.

## В Беларуси появится платный спортивный телеканал

Председатель Белтелерадиокомпании Геннадий Давыдько на встрече с редакторами региональных СМИ в Академии управления при президенте Беларуси заявил, что летом планируется запуск спортивного телеканала "Беларусь-5".

Канал будет платным, без вливания бюджетных средств, сообщает goals.by.

## Маленький прогресс большого баскетбола

Баскетбольный клуб "Цмокі-Мінск", победив "Нимбурк", гарантировал себе участие в основной сетке Лиги ВТБ-2013/14.

Минская команда добилась домашней победы — 71:63. Таким образом, минчане, добившись трех побед в 18 поединках, финишировали на предпоследней, девятой, позиции в группе "В" и избежали участия в квалификационном турнире сезона-2013/14.

— Я бы не сказал, что наши хорошо сыграли, скорее нормально, в свою оптимальную силу, — пишут болельщики на форуме. — Но — МОЛОДЦЫ! Выстояли! В этом сезоне был заметен прогресс: в Еврочеллендже впервые прошли до 1/16 финала, а в сильной Лиге ВТБ обрели ТРИ победы против одной в прошлом году. Причем одна из них — над грандом Лиги ВТБ баскетбола литовским "Жальгирисом"!

## 5 миллионов долларов для «Шахтера»

Начальник юридического отдела "Белкалия" Вадим Шумак озвучил размер бюджета солигорского футбольного клуба "Шахтер" на сезон-2013.

"Бюджет клуба увеличен только на процент инфляции, — заявил он. — Он составит около 5 миллионов долларов, но это с учетом строительства двух естественных полей возле базы. 70 процентов его наполнения должен обеспечить "Белкалий", 15 — дать другие спонсоры, еще 15 — заработать клуб. Но все это лишь в планах: указа пока нет", — цитирует Шумака pressball.by.

ЭКСКЛЮЗІЎ

# Васіль Панкоў і яго жанчыны

*Аб жанчынах карэспандэнт "Народнай Волі" гутарыць з галоўным трэнерам беларускай жаночай хакейнай каманды "Пантэра" Васілём **ПАНКОВЫМ.***



...Трэніроўка прайшла, дзяўчаты пабеглі ў раздзявальню. Васіль Панкоў збірае свае канькі, клюшкі, і мы шыбуем у трэнерскую. Пачынае ён з успамінаў:

— Ні мама, ні бацька ў хакей мяне не адводзілі. Школу наведаў трэнер, я запісаўся ў хакейную секцыю. Затым за мной і малодшы брат пацягнуўся. Пасля быў вялікі спорт, пачалася трэнерская кар'ера...

**— А дзе працавалі бацькі?**

— Мама ўсё жыццё — у Мінску на заводзе, тата быў міліцыянерам. На вуліцы Бялінскага жылі. Трэніроўкі былі ў парку Горкага, таму на першым трамваі даводзілася піліць на трэніроўкі, якія пачыналіся ў 6 раніцы. Трэба ж было ў школу паспець. І так на адзін урок спазняўся.

**— Дорага абыходзілася ўтрымліваць пачынаючага хакеіста?**

— Не сказаў бы. Форма тады была не такой якасці, як зараз, але купляць яе не трэба было. Можна было канькі добрыя набыць, але неяк абыходзіліся.

**— Хто больш займаўся вашым выхаваннем — маці ці бацька?**

— Усе разам выхоўвалі. Бацька часам быў незадаволены школьнымі адзнакамі, падчас спаборніцтваў даводзілася прапускаць заняткі.

**— Ці дапамагалі маці ў дзяцінстве?**

— І зараз дапамагаем — купляем нешта. Вось, напрыклад, дачу для бацькоў набылі. А малымі ўборкай займаліся, раней жа нават пыласоса не было.

**— У школе за хакеістамі, напэўна, бегалі дзяўчаты?**

— За нашым спецкласам бегалі, нават тэлефоны дамашнія знаходзілі. Хоць, шчыра кажучы, у мяне на гэтыя амурныя гісторыі часу проста не было. Праўда, першы раз ажаніўся не так і позна — у 23 гады. Некалькі гадоў сустракаліся, потым было вяселле...

**— З размахам?**

— Чалавек сто прыйшло. Усю каманду мінскага "Дынама" запрасіў — 25 ігракоў плюс трэнеры. У кафэ "Зодчие" сабраліся, павесяліліся. Трэба сказаць, няпроста было назбіраць грошы на вяселле, тады ж у хакеістаў былі не такія вялікія заробкі. Але на падарунках усё і акупілася. Нават з гакам.

**— У мядовы месяц з жонкай ездзілі?**

— Які там адпачынак! Сезон пачынаўся, трэніроўкі...

**— Напэўна, складана было маладой жонцы жыць з хакеістам, які пастаянна ў раз'ездах?**

— Ведаеце, з вышыні пражытых гадоў я пачынаю ўсё больш разумець, што бачыць адзін аднаго кожны дзень — гэта таксама не вельмі добра. Трэба нейкі час і на адлегласці пабыць. Раней я гэтага нават і не заўважаў...

**— Ажаніліся, пабудавалі кватэру?..**

— Так, уступіў у кааператыў, нейкі стартавы ўнёсак зрабілі. З заробку рабілі рамонт, пасля ў нас з'явілася дачка Вікторыя.

**— Вікторыя — гэта перамога.**

— Шчыра скажу, я імя выбіраў, мне яно вельмі падабалася. У асноўным выхаваннем дачкі маці займалася, але і я не ліберальнічаў, калі мне не падабаліся некаторыя ўчынкі малой. Трэба было таксама сказаць сваё бацькоўскае слова — у кут ставіў. Але ж і шкадаваў. Падарункі з паездак прывозіў — цацкі з шакаладкамі.

**— Сёння Вікторыя Панкова — вядучая баскетбалістка каманды "Бярэзіна". Даўно вырашылі, што дачка пойдзе ў вялікі спорт?**

— Наогул пра гэта не думалі. Ды і займацца баскетболам Віка пайшла, калі ёй было ўжо 11 гадоў. І ніхто не прымушаў, гэта асабіста яе выбар. Па тэлевізары баскетбол глядзела, спадабалася.

**— Ведаю, што з жонкай вы праз нейкі час разышліся...**

— Так, зараз у мяне ўжо другая сям'я, сын. З першай жонкай пражылі больш за дзесяць гадоў, але ў жыцці здараецца ўсялякае...

**— Як дачка ўспрыняла такі крок?**

— Скажам так — з разуменнем. Увесь час мы з ёй падтрымлівалі сувязь, нават на адпачынак разам ездзілі. Віка прыходзіла на мае матчы, я наведваю яе выступленні, калі ёсць час.

**— А ці ўзялі б дачку ў жаночую хакейную каманду?**

— Што ж загадваць, калі яна ўжо для сябе абрала іншы від спорту? Але, калі б у яе з'явілася такое жаданне, то чаму б і не?

**— У вас нярэдка пытаюцца: ці складана вам працаваць з жаночай камандай?**

— І я заўсёды адказваю: "Не складаней, чым з мужчынамі". Больш таго, дзяўчаты больш адказныя. Скажаш — зрабілі, не забылі. Гэта не хлопцы, якім трэба па сто разоў нешта нагадваць.

**— А з дыетай у некаторых ёсць праблемы? Кажуць, што для дзяўчат гэта пастаянная праблема.**

— Безумоўна, доктар кожны месяц правярае вагу, нормы існуюць. Калі ў адпачынак сыходзяць, папярэджваем: не захапляйцеся салодкім. За перабор вагі нават штрафы ў камандзе прадугледжаны. Праўда, да крайніх мер пакуль не даходзіла.

**— У вольны час са сваім жаночым батальёнам на нейкія мерапрыемствы ходзіце?**

— Па магчымасці. Наведвалі неяк "Мінск-Арэну", на "Дынама" выбраліся...

**— А на вяселлі каго-небудзь са сваіх выхаванак трэнер ужо гуляў?**

— За тры гады маёй работы ў камандзе пакуль такога не было. Спартсменкі самі цудоўна разумеюць, што сямейнае жыццё можа пайсці не на карысць кар'еры. Зрэшты, кавалеры ходзяць на хакей падтрымаць сваіх дзяўчат.

**— Як вы павіншавалі дзяўчат на 8 Сакавіка?**

— Клуб сабраў усю каманду ў кафэ, падарылі кветкі і невялікія сувеніры. Як кажуць, пасядзелі сямейным колам.

**— Што складаней за ўсё ў рабоце з жаночай камандай? Кантынгент жа спецыфічны...**

— Для мяне няма розніцы, з кім працаваць. Проста для дзяўчат нагрузкі меншыя. Дарэчы, жаночы хакей у Беларусі развіваецца, ідуць наборы ў абласцях. Зараз "Пантэра" стала ўладальнікам Кубка Элітнай жаночай хакейнай лігі, усё гэта дадае папулярнасці.

**— І бацькі не супраць, каб іх дачка займалася, мякка кажучы, не зусім жаночым відам спорту?**

— На вяроўцы ж ніхто дзіця не цягне ў секцыю. Безумоўна, для гэтага патрэбна згода ўсіх. Так, хакей — цяжкая работа нават для мужчын, але ж вы паглядзіце, як жанчыны зараз штурмуюць мужчынскія віды спорту. Цяжкая атлетыка, барацьба, футбол, хакей... Эмансіпацыя.

**— Я ўяўляю, як сябе вядуць дзяўчаты на пляцоўцы, калі пачынаецца бойка...**

— Бойкі ў нас — рэдкая з'ява, хоць і такое здараецца. Вось у адным з апошніх матчаў гулялі з "Зальцбургам", і наш памочнік капітана Ева Петэрсан высвятляла адносіны з саперніцай. Першы раз за тры сезоны бачыў такое відовішча! Хвіліны дзве біліся, пакуль суддзі на расцягнулі. Праўда, пальчаткі і шлемы на здымалі. Каб пачалі яшчэ і за валасы цягаць адна адну... Але гэта хакей, у якім у крыўду сябе не варта даваць.

**— А ці плачуць вашы спартсмены?**

— Натуральна, гэта ж дзяўчаты. Нешта не атрымліваецца, прайгралі... Тлумачу, што слязамі тут не дапамагчы. Я, дарэчы, і крычу на іх вельмі рэдка — толькі ў выключных выпадках і на эмоцыях. Яны ж для мяне як дзеці...

**Алесь СІВЫ.**



ШАХМАТЫ

## Из творчества читателей

*В.Жукович*



**Белые:** Kpb7, Cg1, Kf6, Kg4, п. d3 (5).

**Черные:** Kpd8, Ле3, Ke7, Kh6 (4).

**Мат в 2 хода.**

Публикуем двухходовую задачу нашего постоянного автора, белорусского поэта и шахматиста первого разряда Василия Алексеевича Жуковича. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная Воля", "Шахматы".**

## Мемориал Д.Бронштейна

В Минске прошел традиционный турнир по быстрым шахматам, посвященный памяти выдающегося гроссмейстера, вице-чемпиона мира Давида Бронштейна. В нем выступили 104 шахматиста. Среди участников были 10 гроссмейстеров и 11 международных мастеров. Соревнования проводились по швейцарской системе в 10 туров. В острейшей борьбе к финишу вместе пришли сразу пять участников. Для определения победителей судьям пришлось учитывать дополнительные критерии. В итоге победителем мемориала стал чемпион Беларуси 2013 года гроссмейстер Сергей Жигалко (Минск), набравший 8 из 10 очков. Второй приз выиграл 18-летний международный мастер Владислав Ковалев, третий — международный мастер Андрей Горовец, четвертый — гроссмейстер Алексей Александров (все из Минска), пятый — гроссмейстер Андрей Ковалев (Витебск).

В восьмерку призеров также вошли: 6.международный мастер Евгений Мочалов — 7,5, 7.гроссмейстер Евгений Подольченко — 7 очков (оба из Минска), 8.гроссмейстер Сергей Каспаров (Могилев) — 7 очков.

Среди женщин лучшими были гроссмейстер Елена Заяц — 6 очков и международный мастер Ланита Стецко — 5 очков.

Приз за лучший результат среди ветеранов выиграл гроссмейстер Виктор Купрейчик — 7 очков.

## Юные чемпионы

В чемпионате Беларуси среди юношей в возрасте до 18 лет приняли участие 27 шахматистов. Турнир проводился по швейцарской системе в 9 туров. В итоге напряженной борьбы звание чемпиона завоевал минчанин, кандидат в мастера Андрей Савицкий, набравший 7,5 очка из 9 возможных. На пол-очка отстал серебряный призер кандидат в мастера Егор Филипец (Мозырь). А бронзовая награда досталась минчанину, кандидату в мастера Алексею Терзи — 6,5.

У девушек в чемпионате выступили 15 спортсменок. Убедительную победу одержала минчанка, кандидат в мастера Мария Невеселая — 7,5. На полтора очка отстали кандидат в мастера Екатерина Бейненсон (Пинск), у нее серебряная медаль, и Лина Узловатая (Брест) — бронза.

По итогам чемпионатов победители завоевали право представлять нашу страну на чемпионатах мира и Европы.

Состоялись также чемпионаты Беларуси среди юношей и девушек по быстрым шахматам и блицу. В турнире по быстрым шахматам среди юношей первенствовал Валентин Ежель (Гомель) — 6,5 из 9. Такой же итог у Егора Филипца, занявшего второе место. А бронзовым призером стал 13-летний минчанин, кандидат в мастера Михаил Никитенко — 6 очков.

У девушек чемпионкой стала витебчанка Ольга Молотилова — 6,5 из 8.

В соревнованиях по блицу у юношей победу одержал Михаил Никитенко — 7,5 из 9. У девушек первенствовала Екатерина Бейненсон — 7,5 из 8.



Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906
nv@promedia.by
http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 25.03.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27410 экз. Заказ №1032.